© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

# Беларускія фанаты ўчынілі бойку ў Кіеве

http://navinki.promedia.minsk.by

# НАВІНКІ

26 - 31 сакавіка 2001 №5(43) Кошт свабодны

**Рэгістрацыя грантаў?! ТАК!**

стар.2






# Пыватызацыя пачалася!

*Я бу.., я бу..,*
*Я буду піваварам,*
*Я «Бал...», я «Бал...»,*
*Я «Балтику» люблю!*
*(З народнага фальклёру)*

**Адмысловае дасье чытайце на стар.4-5**



## Яшчур & рэформа АПК

на стар.3

## Разьвянчаць міт ВКЛ

стар.6

## Бульба



са смакам картоплі

(комікс на стар.8)

Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Падпісны індэкс **63439**. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: navinki@user.unibel.by; Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143.

Нумар падпісаны да друку 25.03.2001г., а 20.01. Тыраж 5600 экз. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў у друкарні ПП «Мэджык», г. Менск, вул. Кнорына, 50. Заказ №274

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018





## *Пратэст*

**Н**е пасьпелі загаснуць ашмёткі спаленага экстрэмістамі расейскага трыкалёра на Дзень Волі, як патрыятычныя сілы Расеі выявілі свой пратэст. Сабраўшыся ўвечары 25 сакавіка каля беларускай амбасады ў Маскве, нацыянал-патрыёты пасьля невялічкага мітынгу спалілі чырвона-зялёны беларускі сьцяг.

*Карэя*



## Патрыёты на Кубонскім перавале

Ва ўезьдзе Онган правінцыі Чаган высіцца Кубонскі перавал. Амаль 30 гадоў тут, у малалюднай глушы, працуе Кім Сон Не, наглядаючы за дарогай. На пытаньне «Якая таму прычына?» яна адказвае: «Як вядома, той, хто пазбаўлены пачуцьця доўгу, перастае быць чалавекам. Я жыву, кіруючыся гэтым прынцыпам».

Спачатку яна працавала ва ўезным прапрыемстве па нарыхтоўцы харчаваньня. Аднойчы вяртаючыся дахаты з працы яна заўважыла, што шлях пакрыты ўхабамі і калдобінамі. Ноччу яна не магла заснуць, прыгадваючы мінулае. У трохгадовым узросьце, калі Радзіма знаходзілася яшчэ пад ваеннай акупацыяй Японіі, яна страціла бацькоў. На яе твары заўсёды была цень смутку. Ёй прыйшлося прасіць міласьціну ў чужых людзей. Толькі пасьля адраджэньня Радзімы яна стала жыць чалавечым жыцьцём, і на яе твары засіяла ўсьмешка. Яе сэрца было перапоўненае падзякай да Прэзыдэнта Кім Ір Сэна, які адрадзіў нашу краіну. Яна лічыла, што дзякуючы наяўнасьці Прэзыдэнта існуе яна, яе сям'я і ўвесь народ.

Ёй хацелася выслаць шоўкавай тканінай ўсю дарогу па якой будзе ехаць Родны Правадыр. Аднак раптам яна пабачыла ўхабісты шлях і, само сабой зразумела, адчула мукі сумленьня. Яна лічыла сябе вінаватай за гэтыя выбоіны. Зранку яна наведала адпаведнага адказнага работніка, прапанавала яму перавесьці яе на працу па нагляду за дарогай.

Просьба Кім Сон Не была задаволеная. З таго часу яна прыкладала ўсе свае сілы для нагляду за дарогай. Зрабіла дарогу роўнай, запаўняючы выбоіны камяністай глебай, усталявала ў адпаведных месцах дарожныя знакі і слупы бясьпекі. Па абапал дарогі пасадзіла дрэвы, кветкі, любімыя людзьмі. Яе нястомныя намаганьні далі аб сябе знаць. Яе ўчастак дарогі зьмяніўся. Яна навучыла сваіх дзяцей наглядаць за дарогай як яна. І вось зьявілася сямейная брыгада абходчыкаў. Прайшоў час. Дзеці вырасьлі і прыйшоў час ім абзавесьціся сем'ямі. Яны выбралі спадарожнікамі жыцьця нявест і жаніха, якія любілі дарогі. І павялічылася колькасьць сябраў сямейная брыгады. Аднак жыцьцё – ня гладкі шлях. Гэта цярзала душу маці. Яна ўгаворвала і цярпліва выхоўвала сваіх дзяцей, каб у іх сэрцах укараніўся патрыятычны дух. Іх дабрасумленная праца і самаадданасьць не прапалі дарма. Дарога на перавале падтрымлівалася ў стане парадку і была як асфальтаваная. У жніўні мінулага году таварыш Кім Чэн Ір сустрэўся на перавале з членамі сям'і Кім Сон Не і высока ацаніў іх самаадданую працу. Кім Сон Не і сябры брыгады ў адзін голас гавораць.

– Можа нехта на сьвеце набыў шчасьце грашыма. Аднак нам выпаў гонар сустрэцца на нашай дарозе з Кіраўніком і атрымаць высокую адзнаку за нашу працу. Няма на сьвеце большага шчасьця, чым тое, што мы адчуваем.

# Усе на рэгістрацыю!

## У бочку мёду аматараў грантаў Прэзыдэнт дакінуў лыжку дзёгця

Дэкрэт № 8 пра абавязковую рэгістрацыю грантаў застаў рэдакцыю *Навінкі* зьнянацку, як Сталіна – вераломны напад фашысцкай Германіі. Прыбыўшы варшаўскім цягніком кур'ер ад Сораса, малады кашуб будаваў на рэдактарскім сэкрытэры вежу з брускоў сьвежанадрукаваных баксаў. У гэты час з вуліцы прынесьлі ранішнія газэты. Прабегшы позіркам па перадавіцы *Саўбелкі*, твар нашага галоўнага рэдактара скрывіла грымаса жаху. «Цяпер, каб выкарыстоўваць грант, прыйдзецца, адпаведна дэкрэту, ісьці па дазвол у Адміністрацыю прэзыдэнта. Зьбірайся,» – загадаў ён мне і я пачаў завязваць шалік.

Не пасьпеў я выйсьці з трубы Кастрычніцкай, як здалёк за частаколам дрэваў Панікоўкі (культавага парку каля офісу Лукашэнкі) пабачыў пляму чалавечага натоўпу. На прыступках адміністрацыі тусавалася морд семдзесят, сярод якіх я пазнаў заўсёднікаў прыёмаў у гаранта асноўнага закону. «Вы апошні?» – спытаў я бадзёра ў сьпіны, апранутай у каракулевую шубу. Сьпіна здрыганулася і абярнулася:

– Добры дзень.

– І вы сюды?

– І я...

– Грант рэгістраваць?

У адказ Вячорка патрос кейсам. Падыйшоў Бандарэнка. Папрасіў агеньчыка. «Мы з Саньнікавым стаім тут вахтавым мэтадам. Атрымалі ад Вэстмінстэра (ёсьць такі фондзік) чарговы транш на размалёўку гораду новымі графіці мадэлі «Зубр». Зараз бегаем зацьвярджаем у гарвыканкаме месца для надпісаў. Пакуль усё завізуеш...»

Раптам адчуўся нездаровы рух. Пачалі пераклічку. Вячорка зацягнуў рукаў свайго паўшубку, быццам праходзіў кантроль у «А-клюбе». Ніжэй лакця капілярнай ручкай была выведзеная трохзначная лічба. Жанчына з гросбухам гучным голасам пачала пераклічку...

– ...666!

– Прысутнічае! – адрапартаваў лідэр БНФ.

Як толькі пераклічка скончылася, унутры будынку за шклом нешта пачало варушыцца. Дзьверы зарыпелі і ўвесь натоўп ламанаўся ў жэлаб. Я адчуў сябе памаладзеўшым гадоў на дзесяць, быццам вярнуліся часы гарбастройкі, калі плебс штурмаваў віна-гарэлачную краму на Трактарным. Толькі там публіка была больш інтэлігентная. «Я вас укушу!!!» – крычала Юлія Чыгір. «Вэтэранаў нацыяналістычнага руху без



чаргі!» – выўваўкалакам Славамір Адамовіч, намагаючыся адцясьніць Шчукіна. Шчукін рваў цельнік і біўся галовою аб шкло. Жук – выдавец *Нашай Свабоды* бадзёра прабіваўся наперад. Нарэшце я прабіўся ў прыёмную.

– Вам чаго?

– Мне б гранцік...

– А ці ёсьць у вас даведка з флюараграфіі?

Там натыкнуўся на змрочнага Севярынца. Па зьнешнім выглядзе зразумеў, што лідэра «Маладога Фронту» пазбавілі ўсіх шанцаў. «Уяўляеш, прыйшоў грант на зьвяржэньне дыктатуры. Ну, я сунуўся на рэгістрацыю, а гэты бюракрат, пацук канцылярскі, мне і кажа: «Калі я такі грант зарэгіструю, мяне ж бацька з працы папрэ». Не разумею, з чаго б гэта ён. Ну я знайду на іх управу! Калі спатрэбіцца, да самога бацькі дайду, Хрыстом клянуся!» Севярынец перахрысьціўся і зьнік у лябірынтах прэзыдэнцкага кабінэту. Лапух. А я заўтра ж іду ў паліклініку на рэнген і мазок. Газэту ж трэба неяк рабіць ●

**Лёлік Ушкін**

## *Экстрэмізм па-маладафронтаўску*

Пасьля таго, як на апошніх выбарах сакратара Гарадзенскай філіі МФ перамог «экстрэміст-краёвец», шараговыя маладафронтаўцы справядліва чакалі радыкалізацыі курсу арганізацыі. Аднак спадзяваньні закаранелых адмарозкаў, якія да гэтае пары мараць пра салодкі пах «кактэйля Молатава» і вулічнай рубілаўкі, абламаліся.

Першай акцыяй новага кіраўніцтва Гарадзенскага МФ стала... раздача кветак міліцыянтам. І хоць лідэр МФ доўга апраўдваўся, што гэтая акцыя насіла характар псыхічнай атакі, пачаўся адток маладафронтаўскіх экстрэмістаў у больш радыкальныя арганізацыі накшталт «Аб'яднаньня філятэлістаў» або аматараў кошак ●




# Міжнародная панарама

**ПОЛЬШЧА**

19 сакавіка анархісты зрабілі акцыю супраць каталіцкай радыёстанцыі «Radio Maryja» ў Торуні. Гэтая беззаганная радыёстанцыя вядомая сваім антысэмітызмам, агалцелым фанатызмам і чорнымі фінансавымі маніпуляцыямі. У час паседжаньня рэдакцыйнай рады анархісты завалiліся з лёзунгамі: «7-ая запаведзь: не крадзі», «Больш новых школ для антысэмітаў». Дэфлярацыя «Марыі» выклікала зацікаўленасьць клерыкальнай грамадзкасьці.

**ПАЎДНЁВАЯ КАРЭЯ**

Працягваецца бунт супраць скарачэньня рабочых на прададзеным Daewoo заводзе General Motors. 17 сакавіка ў цэнтры Сэула каля 2 тысяч студэнтаў і звольненых рабочых Daewoo шпурлялі ў паліцыю камяні, і «кактэйлі Молатава». Тымі ж бутэлямі з вогненнай вадой быў закіданы офіс General Motors. Гэтак да гэтае пары маза карэйскай дзяржавы зарабіць бабло за кошт беспрацоўя насельніцтва не удаецца.

**НЭПАЛ**

17 сакавіка каля 15 тысяч праціўнікаў глябалізацыі атакавалі Трэці Глябальны Форум 188 краінаў па інфармацыйных тэхналёгіях. Зона ў радыюсе кілямэтру ад Форума была ператвароная ў сумесь карабінэраў, бранетэхнікі, газу. Па ходзе маніфэстацыі былі разбураныя некалькі офісаў банкаў і фірм. (Дробныя крамы не пацярпелі!) Арыштаваныя 50 чалавек, у якіх знайшлі кірку для ламаньня бруку, ланцугі, арматурыны. Гэтыя прылады неабходныя ў барацьбе за інтэрнэт, які застаецца адзіным незалежным сродкам інфармацыйных зносін.



**БРАЗЫЛІЯ**

21 сакавіка бразыльскія хакеры ўзламалі сайт Associated Press. Гэта ўжо 135 сайт, разбураны гэтай групоўкай, на іх рахунку ўзлом сайту радыё Ватыкану, сайтаў Microsoft і г.д. Цікава, што Бразылія – такая ж аграрная і ўбогая краіна, дзе большасьць насельніцтва ўвогуле ня ведае, што такое кампутар. Тым ня менш менавіта тут знаходзіцца самая крутая хакерская тусоўка ў сьвеце.

**ІЗРАІЛЬ**

20 сакавіка больш за тысячу чалавек: акадэмікі, выкладчыкі, студэнты Унівэрсытэту в Біржэт прайшлі ад Рамалаха да ізрытай ірвамі дарогі Рамалах–Біржэт, заклікаючы зьняць блякаду дарогі ірвамі, вырытымі ізраільскімі акупацыйнымі сіламі на мінулым тыдні. Пасьля спіча яны пачалі зарываць траншэі рукамі, лапатамі, бульдозэрам. Каб спыніць людзей, ізраільскія вайскоўцы пачалі шпурляць у натоўп газавыя бомбы.

**ЧЫЛІ**

17 сакавіка чылійскія мундзіры ў Сант'яга разагналі паўтысячную дэманстрацыю супраць 42-й канфэрэнцыі Міжамэрыканскага Банку разьвіцьця (Inter-American Development Bank – IADB), які абвінавачваюць у наўмыснай падтрымцы сацыяльнай няроўнасьці. Палітыка банку накіраваная на прыватызацыю сацыяльнай сфэры і ўціскненьне працоўных правоў грамадзян, што павялічвае разрыў паміж багатымі і беднымі.

**РАСЕЯ**

У Маскве і Пецярбурзе і Екацярынбурзе рэгулярна адбываюцца антываенныя акцыі, накіраваныя на спыненьне вайны ў Чачэніі. Аднак у мас-мэдыя фактычна дзейнічае схаваная «патрыятычная» цэнзура. Нават на «дэмакратычнай» НТВ, якая крытыкуе ваенную кампанію, не пускае крамольную карцінку на свой экран.

**ШВЭЦЫЯ**

24 сакавіка 4000 дэманстрантаў пратэставалі супраць саміту Эўрапейскага Саюзу ў Стакгольме. Паліцыі і службоўцаў аховы было гэтак шмат, што дэманстранты не змаглі прарвацца бліжэй за 400 мэтраў да месца паседжаньня. Але ў такіх нэрвозных абставінах многія пункты дагавору ЕС так і не былі падпісаныя. Пакуль моладзь Эўропы пратэстуе супраць новай жалезнай заслоны, беларуская апазыцыя заклікае «Беларусь – у Эўропу», а ўлады мараць аб атрыманьні кабальных банкаўскіх крэдітаў.



© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# Кансэрватыўная рэвалюцыя?

## Апалягеты ВКЛ хочуць уплываць на будучыню РБ

Што ні кажы, рамантыка – моцная рэч. Цывілізацыя «пэпсі» і зжыгальнікаў тлушчу, што ідзе сёньня на нас у лабавую атаку, можа дастаць любога. У рэшце нават палымяныя энтузіясты заходняга ладу жыцьця разумеюць, што патрабаваньне нэалібэралізму перавышае ягоныя асабістыя магчымасьці і магчымасьці ягонай краіны. Аднак «квітнець» усяроўна трэба, таму калі не атрымліваецца наперад – рухаемся назад, у рамантычнае мінулае. І вядома, барані Бог, не ў савок, а яшчэ глыбей у пласты гісторыі.

Адваротны рух спыняецца пакуль што на мяжы раньняга бронзавага і жалезнага веку, аднак можна не сумнявацца, што хутка зьявяцца і апалягеты палеаліту. І сапраўды, тады можна будзе лёгка давесьці, што пакуль продкі маскалёў яшчэ лазілі па дрэвах, абмяркоўваючы з дапамогай жэстаў і гукаў пляны акупацыі Беларусі, у беларусаў ужо адваліліся хвасты. Аднак пакуль у нас бясспрэчным лідэрам у сьпісе найбольш часта наведваных месцаў віртуальнага мінулага зьяўляецца ВКЛ.

У гэтай сэкты сярэднявечча ёсьць няхілыя прапаведнікі – У.Арлоў і Г.Сагановіч. На прэзэнтацыі кнігі *10 вякоў беларускай гісторыі* у Гомелі 12 лютага 1999 году апошні заявіў аб тым, што **«у сярэднявечы правы чалавека абараняліся лепш, чым зараз»**. Вось дзе, аказваецца, ключ да вырашэньня ўсіх праблемаў! Уводзім у дзеяньне Статут ВКЛ – **«самую першую і самую дэмакратычную ў сьвеце канстытуцыю»** – і жывем сабе прыпяваючы пры разьвітым фэадалізме, ня ведаючы гора і клопатаў, якія прынесьлі індустрыялізацыя, ліквідацыя непісьменнасьці плюс электрыфікацыя ўсёй краіны.

Скептык напэўна скажа, што электарат ніколі не прагаласуе за таго кандыдата, што паабяцае запусьціць ня фабрыкі і заводы, а кустарную прамысловасьць і падсечна-агнявое земляробства, а замест інтэграцыі з Расеяй заключыць асабістую унію з польскім прэзыдэнтам Квасьнеўскімі Мы адказваем – прагаласуе, калі граматна падысьці да гэтага пытаньня. Калі весьці прапаганду рэстаўрацыі ВКЛ, то ня трэба выпячваць на першы плян тое, што большасьці насельніцтва прыйдзецца перайсьці ў стан прыгонных халопаў. З калгасьнікамі будзе проста, а вось з гараджанамі падчас перадачы іх пад прыватныя юрысдыкцыі або пад уладу старасты прыйдзецца павазіцца.




*Прыгоннае права, шляхецкі беспрадзел і засільле клерыкалаў – вось ісьцінны твар Вялікага Княства Літоўскага.*

У прапагандзе «нацыянальнай манархіі», можна націскаць на такія мілыя электарату рэчы: суровае й непазьбежнае пакараньне з усякага поваду і бяз поваду – саджаньне на кол, спаленьне на вогнішчы, чацьвертаваньне, біцьцё кнутом і ншыя меры пакараньня, гэтак любімыя абывацелямі. Прадстаўнікі нацыянальнай інтэлігенцыі падпішуцца пад праект ВКЛ, калі дазнаюцца што за абразу шляхціца прасталюдзінам пагражае сьмяротнае пакараньне. Вернікам можна паабяцаць, што ўсе герэтыкі будуць падвергнутыя аўтадафэ. Яшчэ напрыканцы XVII стагодзьдзя герэтыкаў адпраўлялі на вогнішча (калі мадэрністы будуць настойваць, можна выкарыстаць зручнае слова – печ). Сэксуальна-заклапочаную частку мужчынскага і жаночага насельніцтва можна будзе прыцягнуць у адраджэньне старыны, паабяцаўшы ім аднаўленьне старога народна-фэадальнага звычаю «права першай ночы». Цяпер кожны сёньняшні старшыня калгасу, «вэртыкальшчык», або чыноўнік будуць несьці пачэсны абавязак зрабіць акт дэфлярацыі (або што там атрымаецца) з кожнай нявестай (мадэрністы могуць настойваць і на жаніху).

Карацей, спадары рэакцыйныя рамантыкі, галоўнае прыкласьці паболей творчай кемлівасьці. Тады афганскія талібы і саудаўскія вахабіты, якія прадпрымаюць спробы аднавіць ісламскае сярэднявечча, будуць здавацца жалкімі зьбіральнікамі фальклёру і калекцыянэрамі тостаў на фоне магучай дзяржавы – ВКЛ-2 ●

**Леў Сапега**

## МыІісПОрт

### «Чаму пабіліся між сабой фанаты Беларусі і Украіны напярэдадні апошняга матчу?»



**Юра, навуковы супрацоўнік:** «Эскаляцыю футбольнага хуліганства я бачу ў наступным. Дзе нармальным пацанам сёньня можна пабіцца? Вядома ж, не на Дні Волі. Таму ўсе нашы экстрэмісты й пераключаюцца з палітыкі на спорт».



**Лёша, інжынэр:** «А, як заўжды з-за дзеўкі пацапаліся. Бяру адну хахлушку за ляшку, а ў ейнага пацана розачка кіеўскага «Дынама». Ну й панеслася».



**Сева, дэпутат палаты:** «Я атказываюсь гаварыць с вашай газетай».



**Толік, футбольны фанат:** «Гоніва ўсё гэта! На самой справе папісьціліся між сабой самі беларускія фанаты: чырвона-зялёныя пуярылі бел-чырвона-белых. А жоўта-блакітныя выскачылі на пабядона».

# НоВы ДыснЭЙлЭнд

## *Прыгоды датчан у Бабруйску*




У Дыснэйлэндзе для ахвочых да вострых уражаньняў турыстаў існуе цэлы шэраг экстрэмальных паслуг: на іх нападаюць падчас вандроўкі ў амаль сапраўдным дыліжансе амаль сапраўдныя індзейцы і амаль па-сапраўднаму рабуюць.

Падобныя віды забаваў пачынаюць практыкаваць і беларускія «масавікі-зацейнікі».

У Бабруйску 16 сакавіка на абсалютна прахадны сэмінар, які праводзілі студэнты Капэнгагенскага унівэрсытэту, завіталі сапраўдныя мянты і сапраўдныя цёткі з пашпартнага стала, якія запатрабавалі прад'явіць дакумэнты. Пасьля, заявіўшы, што ў пашпартах не хапае рэгістрацыйнай візы, на вялікае задавальненьне датчан, іх правялі па мясцовых урадавых установах і выдалі амаль сапраўдную даведку з папярэджаньнем аб парушэньні «адміністратыўнага кодэксу БССР аб правілах прабываньня ІГ і ЛБГ на тэрыторыі РБ», што таксама вельмі парадавала маладых дацкіх аматараў экстрэмальнага турызму.

І хаця датчанам гэтак і не ўдалося пачаставацца ментаўскімі спэцсродкамі і не наведалі мясцовага «абезьяньніку», замежныя госьці былі задаволеныя. Удзельнікі экзатычнага турнэ скупілі юбілейную гарэлку «СССР» прадукцыі клімавіцкага разьліву і абяцалі прыехаць у траўні. Прыяжджайце, шаноўныя госьці, мянтоў і іншай экзотыкі ў нас на ўсю Эўропу хопіць ●

**Алег Ахрыменка,**
Бабруйск–Менск–Капэнгаген

# Булава Гетмана

## (інтэрактыўная аповесьць)

XV.

Пакуль у двары маёнтку п'яныя казакі дубасілі злоўленага недзе цыгана, Ст'анкевіч аглядзеў месца злачынства і апытаў сьведак. Гэта дало пэўную інфармацыю для роздуму. Учора ўвечары булаву схавалі ў спэцыяльны куфэрак з сакрэтным замком, ключ ад якога быў толькі ў гетмана. Куфэрак знаходзіўся ў пакоі, дзе палкоўнік Сьліва захоўваў зброю. Назіраць за булавой было даручана ардзінарцу гетмана Грыцко Касому. Ноччу некалькі казакоў чулі нейкую валтузьню, але не надалі гэтаму аніякай увагі. Прачнуўшыся раніцай, гетман накіраваўся да ветру і падарозе знайшоў плаваючы ў лужыне крыві труп Грыцко. Казак быў апрануты ў двухспальныя х/б-шаравары з паметкай «Made in Osmanskaya Empire» і ў руцэ трымаў пусты штоф з-пад гарэлкі «Сльози гайдамака». Шыя Грыцко была разарваная і выглядала так, нібыта казака грызьлі чыесьці жудасныя скіўцы. Ніякай вядомай Ст'анкевічу зброяй нанесьці такія раны было немагчыма. Куфэрак з булавой гетмана загадкава зьнік.

Аглядаючы труп, Ст'анкевіч заўважыў побач зь целам зжаўцелы ад часу старажытны пэргамэнт, і, шпарка прагледзеўшы, схаваў яго ў кішэню. Яшчэ адна цікавая рэч кінулася ў вочы пану Андрэю: з шыі забітага быў зьняты нацельны крыжык.

Жыхары Ніжніх Жабак паведамілі таксама, што ўчора бачылі ў вёсцы асобу паўднёва-ўсходняй нацыянальнасьці з падазроным мехам за сьпіной. Чужынец быў апрануты ў стракаты халат і турэцкую фэску, частаваў малых рахат-лукумам[1] і на ламанай старажытнабеларускай мове пытаўся, дзе шлях на Маскву. Дабразычлівыя сяляне-жартаўнікі накіравалі небараку ў бок Жабкавіцкай дрыгвы, і больш яго ніхто ня бачыў.

Прааналізаваўшы ўсе гэтыя факты, пан Ст'анкевіч прыняў рашэньне, як яму дзейнічаць далей. Заставалася высьветліць толькі адно пытаньне.

– Скажыце, а як выглядае ваша булава? – зьвярнуўся Ст'анкевіч да раззлаванага гетмана.

– Ну-у-у, да люби друже, ото ж так, так и о це-то так[2]...

Цяпер старому сышчыку было ўсё зразумела.

[1] Рахат-лукум (арабск.) – усходні прысмак, у які мусульмане ў рытуальных мэтах падмешваюць першую мэнструальную кроў праваслаўных цнатлівак.

[2] Я магу даць вам дакладны чарцёж з усімі памерамі і апісаньне з каталёгу гістарычных каштоўнасьцяў (з укр.).

**Заданьне чытачам:**

Хлопчыкі і дзяўчынкі, нарысуйце паводле апісаньня гетмана ягоную булаву і склейце яе макет.

3



© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



## ДОшка абЯваў

«Кароткі курс гісторыі анархізму». Кошт (разам зь перасылкай) 500 руб. Грошы высылайце паштовым пераводам на адрас: 220134 г.Менск, п/с 33; Канавальчыку П.Г.

Куплю піўны завод. Дорага. Т.Балоеў

Два супрацоўнікі газэты «Навінкі» здымуць прыватны дом. Парадак гарантуем. Зьвяртацца праз тэл. 2355148. Насьця, Паша.

Пацаны шукаюць жывёлу. «Слышыш, жывотнае, кагда лавэ вярнёш?» Зьвяртацца на мабільнік.

Газэта «Навінкі» прымае ў падарунак старыя часопісы. Будзем вельмі ўдзячныя. Рэдакцыя.

Куплю піянэрскія барабаны у добрым стане. Па сходнай цане. Пэйджэр 2070000, аб 4116.

Набуду труну, можна б/у. Тэл. 2227542, Дзіма.

### Умовы разьмяшчэньня абвесткі ў газэце

Пералічыце 400 рублёў праз пошту пераводам на разліковы рахунак рэдакцыі: рэдакцыя газэты «Навінкі», р/р 3012201400013, Купалаўскае аддзяленьне ОАО БББ, г. Менск, код 481
На зваротным баку блянку паштовага пераводу ў сэктары «Для пісьмовых паведамленьняў» запісваецца дакладна й чытэльна тэкст абвесткі, тэлефон для сувязі і абавязкова дадаецца сказ: «За рэклямныя паслугі».

## УчЫмся радНОму языкУ

# Случай с пацаном



От вы мне скажыце, пацаны, гдзе січас можна харашо бабла срубіць? Правільна, у бізнасе і ў бандзытах. Мой прыдурак стары, перадавік па-цыпу, дваццаць пяць лет на заводзе робіць, ну і што? Толька на чарнідла па выхадных уся палучка і ўходзіць. А нам, маладым, как круціцца? Січас ні адна малая цібе ня даст, есьлі нет тачкі пуцёвай і ты ня можаш яё у рыстаран там ілі ў клуб начной закінуць, на канары-манары там усякія свазіць пабалдзець.
З бізнэсам, карочэ, у міня не палучылась. Сунуўся я ахраньнікам у адну фірму, а міня там абламалі: «У цібя рэч няправільная. Ты нам будзеш кліентаў адпугіваць». Ну, па-цыпу, я лох, не панімаю, што ім нада ўзятку сунуць, тады і на работу прымуць. А гавару я нармальна, у нас у Малінаўке ўсе так гаварат. Мы как у Мінск пераехалі, так я па-гарацкому правільна і загаварыў.
Ну, вышаў я с той фірмы растроены, і штобы стрэс сьняць зашоў, как белы чалавек, у бар, прыняў на грудзь, сеў на лавачку і сіжу. Раз зь бізнасам не палучылась, рашыў у бандзыты к братве падацца. Ды толька гдзе іх узяць, тых бандзытаў? Сіжу, значыцца, размарыла міня трохі пасля ста грамаў...
А тут перада мной астанаўліваецца джып «Шырокі». Двераткрываецца, высоўваецца мужык прыкінуты: у кашэміравым пальто, з цэпурай, как паложана, і пячатка на руке с брыльянтам. Карочэ, пры дзылах пацан. І гаварыт тот мужык: «Братэла, заработаць хочыш?» Ну, я гавару: «Хачу, не вапрос». А он абрадаваўся: «Есьць адна работа», – гаварыт, вот цібе чымадан, атнісёш яво па нужнаму адрасу і там палучыш капусту. Тока есьць адно правіла – у чымадан не заглядываць. Есьлі загляніш – пажалееш, пацан, што на сьвет вылупіўся». Сказаў так, сунуў мне кейс кожаны, бумажку с адрасам, і паехаў на сваі стрэлкі бандзыцкія.
Ну, я ж, канешна, ня лох пядальны, заглянуў ў кейс, штоб знаць, чыста, за што гарэць буду. Мама родная! Весь чымадан набіты пачкамі баксаў! Што дзелаць? Такой шанс адзін раз у жызьні бывает. А з другой стараны, ані ж міня стопудова вычысьлят. Відзіл я па яшчыку ў «Крымінальнай Расіі» што бандзыты с няўгоднымі дзелают. А есьлі паручэніе выпалню, можат ані рашат, што я правільны пацан і вазьмут міня ў сваю брыгаду. А можат ані вапшчэ ка мне ўжэ даўно прыглядываюцца і рашылі праверыць?
Карочэ, панёс я баксы па адрасу. Прыхажу, чыста, званю, аткрывает мне двер дзіўчонка. Я такіх бусічак нікагда ня відзіў і, навернае, ня ўвіжу. Стаіт у халаціке кароценькам такім, ножкі стройныя і буфера пад халацікам праглядывают тожэ нічыво. Ну, карочэ, у цёлкі станок у парадке. Воласы чорныя і прычоска как у той амерыканскай актрысы, ну, кагда ані там у фільме ешчо з бандзюгай аднім наркоцікі прынімалі. Аддаю кейс і гавару, как крутой, чыста: «Адзін ваш знакомы папрасіў вам перадаць». А ана гаварыт: «Захадзі, парынь, у дом». Хата, канешна, па-цыпу, с еўрарымонтам і прыбамбасамі там усякімі. Пака я аглядываўся, дзіўчонка баксы із кейса выташчыла, на стале разлажыла, а патом гаварыт: «Ты мне, парынь, нравішся, – і ножку так заўлікаюшчэ выстаўляет, – маладзец, харашо выпалніў наша паручэніе». Падводзіт міня к сталу з баксамі, налівает ваду з графіна ў блюдца і руку маю ў вадзе мочыт. «Вот цібе, парынь, і награда: удар па сталу, што к ладоні прыліпнет – то і тваё.» У міня аж дух захваціла: «Ну, думаю, без паўштукі адсюда не ўйду!» Размахнуўся, а ладоні ў міня здаравушчыя, і как шлёпну... сібя па лбу і праснуўся сразу.
А пакудава я спаў какой-та байструк сь міня красоўкі сьняў. От цібе і заработаў! Посьле такова стрэса шчас сабіраюсь у дзярэўню, к бабке аддахнуць. А то матка гаварыла – карміць ня будзіць. У дзярэўне дзяўчонкі хоць і не такія наварочаныя, зато можна с ых папрыкалывацца●

**Калян Канапаты**

## На сацыЯльна-культУрнай абОчыне

# «ФРЭСКі» ў храме імяні Летава вясной 2001

## (Дзесяць фактаў, каторыя ўдзівілі Шырлі)

1 Началось усё ў $17^{15}$ (а назначана была на $17^{00}$), што неціпічна для падобнага рода канцэртаў. Я сьмела і не сьпяша прывалокся к палавіне васьмова – а на цібе, дзела ўжэ блізіцца к канцу. Каралеўская пунктуальнасьць.

2 Некатарыя з выступаўшых нямнога ўладзелі музыкальнымі інструментамі, а іныя, можна сказаць, і вапшчэ няплоха! Настраівалісь быстра, ігралі громка, энэргічна, напорыста. Прымерна такжэ абстаялі дзяла са слушаўшымі.

3 Дажэ це ўчасьнікі, каторыя ні іграць, ні пець, ні пісаць песьні ня ўмелі, самі апрэдзілённа нахадзілі ізрадна красаты, смысла й логікі ў сваіх тварэніях (тэксьцікі ціпа «маленькая девочка, вот я, вот ты/ слышишь вой, значит пора целовать цветы»), і, падкупая такой непасрэцтвеннасьцю, звучалі пачці ўбядзіцельна. Хаця, канешна, мальчык, ранее ізьвесный пад вывескай ДЕТИ ПОДЗЕМЕЛЬЯ, лутшэ б заявіў сібя, к прымеру, как «сына чёртовой матери», а то звацца Джымам у нашы дні, мне кажыцца, проста непрылічна. Асобенна есьлі рашыў выйці із перахода.

4 (Как абычна не случаецца ўісторыі чалавечаства), публіка гендэрна састаяла глаўным образам із інцілігентна-благапалучнага віда студзентачак і малалетніх маргіналаў, апісаных вышэ. Савяршэнна аддзельна друг ат друга сушчэствуюшчых і адзінакавы непаддзельны інцярэс к праісхадзяшчэму іспытываюшчых.

5 Усматрэць жа ў этым праісхадзяшчым малейшаю іскру некаева міфічаскага нацболства, ня знаю, як каму, а мне – рашыцельна не ўдалося. Толька разок гдзе-та ў цёмным-прыцёмным кулуары паслышалася чыё-та ропкае «Сталін–Берыя–ГУЛАГ».



Адзін із абладацелей Летаўскага вакала, гаспадзін Арэхоўскі рашыў астацца с сабой наедзіне посьле такога «сэйшна»

6 І вапшчэ ўсё была так па-дамашняму, камерна і непампезна, можна сказаць, міла. Квазіоперныя вакалы БАГРЫ («самі сабе гаспадары» – самы музыкальны калякціў мерапрыяція) у таком канцексьце звучалі дзікавата...

7 Чрэзвычайна растрогалі юныя грабоіды, пахожыя на жывыя іскапаемыя ілі на мацерыалізаваўшыяся глюкі канца панк-васьмідзісятых. Ігар Хведаравіч Летаў апрэдзялённа ухнуў па ўрэмянному срэзу нехулёвым эхам: Кабэйна, і таго ўжэ аставілі ў пакое, а этат, сматры ж ты, усё валнуе мятушчыяся дзецкія душы... Я сьпярва падумаў, ані прыехалі аткуда-нібуць, с Уралу там, ціпа. Аднака на вапрос «Рыбята, а вы ўсе месные, да?» раздалась «нет», а на саатвецтвуюшчы дапалніцельны «і аткуда жэ?» – дружнае ўвераннае «Кунцэўшчына!». Ну, даюць, сепарацісты!

8 А вот грабоіды рэгіянальныя пажылыя – це расстроілі. Магілёўскі ТИХИЙ ОМУТ, зачаўшы ўтарой дзень фесьцівалю, нагнаў такой скукі, што слушаць дальшэ не хацелась каго бы та ні была. Інцярэсна, кагда ўжэ Майк Васільіч сам сібе надаест настолька, штоб успакоіўся і другім не дакучаў?.. Хаця, собственна, чаго я ждаў ад беларускай глубінкі, радыяхэду?

9 Ну і безуслоўны фужэр... ілі фуршэт... (а! успомніў! Он іх «загрузіў» – а эта ў нас любяць) праізьвёл Уладзімір Арэхоўскі, каторага я как раз упусьціў, бо выступаў он у самым начале, а посьле мамянтальна саскачыў (што, упрочым, не памяшала яму падробнейшы адкамянціраваць праісхадзіўшае позжэ). І вапшчэ этат чалавек мне харашо ізьвесьцен как усегда гатовы с удавольствіем надаваць інтаруеў на пару-тройку навіначных палос за 1 у. е. ўрэмяні (Гл. *Бліц-Інтэрвію*).

## БлІц-ІнтэрвіЮ

У рэферыраванам відзе арэхоўскія высказаванія могуць быць прадстаўлены наўродзе таго:

**«Навінкі»: «Што Вы думаеце па поваду канцэрта, у каторым прынялі ўчасьціе?»**

**А.:** С какой целью это меропріятіе затевалось, совершенно непонятно, поэтому мы решілі отыграть первымі і слінять. І не ошіблісь! По уровню непрофессіонализма, тупості, бездарності концерт превзошёл все ожиданія. Дешёвой буффонады много было, шквал откровенной безвкусіцы, ні о каком общем пережіваніі не было даже речі. Оптімізм організаторов сыграл с німі злую шутку. Концерт выявіл также много негатівных сторон не только в смысле організаціі, но і в плане поведенія отдельно взятых індівідов. Так как некоторые всё-такі смеялісь, можно заключіть, что наше творчество на людей, способных мысліть, воздействует позітівно. Хотя большінство сідело с глазамі по 20 копеек і честно смотрело на всё это мракобесіе. Только раді ніх і выступалі. А в самый ответственный момент, тем не менее, ні у кого не нашлось бутылкі піва – о чём это говоріт?! Больше в подобных меропріятіях я прінімать участія не буду. Чувство стыда за всех нас не дает мне покоя до сіх пор.

**«Навінкі»: «Пішаце лі вы песьні на нармальнам чалавечыскам саўрыменнам беларускам езыке?»**

**А:** Не, не пішу, бо ўладзею пака слаба. Я ж с Каўнаса! Но, есьлі ўсё будзет прадалжацца ў таком жа духе, я несамненна валью́сь ў эці бесканечныя патокі трасянкі. Как пісаў Міларад Павіч, «кругом пално гора, і мы ў ём как рыба ў вадзе»; валью́сь, но учасьція прынімаць ня буду!

**«Навінкі»: «Вапрос, наіболее валнуюшчы Опшчэства зашчыты саўрыменнага беларускага езыка, каторы па ходу мерапрыяція праясьніць не ўдалось: дык хто ж усё-такі глаўны Летаў нашага ўрэмені і прастранства?»**

**А:** Ты, канешна – хто ж яшчо!

10 І вот што мне яшчо падумалась. Есьлі ва ўчэбнай вузаўскай аўдіторыі посьле заняцій на прэпадавацельскі стол вадружаюць стулья, мікрафоны, а радам інсталіруюць барабаны, калонкі і прочыя апаратныя срэцтва, і дапазна аруць там песьні пра цеста – ну, уж какое ў каго есьць – эта ўжэ пачці Рывалюцыя! ●



© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018






© PDF: Kamunikat.org 2018
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018